ДА 2000-годдзя ХРЫСЦІЯНСТВА
Стар. 2.

ПРАФЕСАР БЕКІШ У ЛІКУ ЗНАКАМІТЫХ ВУЧОНЫХ СТАГОДДЗЯ
Стар. 2.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ГАЗЕТЫ БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ «ПРАМЕНЬ» У МІНСКУ
Стар. 3.



ПАБРАЦІМЫ. ПЛЁН НАВУКОВЫХ КАНТАКТАЎ БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ
Стар. 4—5.

МЕЛОДЫЯ ФАРБАЎ Аляксандра УНУКАВА
Стар. 5.

СЛОНІМЦЫ Ў ЗАМЕЖЖЫ
Стар. 6.



АПАВЯДАННЕ Генадзя АЎЛАСЕНКІ «ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА»
Стар. 7.

КВЕТКІ Ў НЕБЕ ДЛЯ Кацярыны МАЗАКОВАЙ
Стар. 8.



АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

8 снежня 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 49 (2659)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

ФЕСТЫВАЛІ

## ЗАКЛЮЧНЫЯ АКОРДЫ

***Кіно па-ранейшаму застаецца адным з любімых відаў мастацтва — гэта пацвердзіў VI Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-99". Сёлетні кінафорум, на якім былі прадстаўлены 17 фільмаў з 9 краін, сабраў больш за 30 тысяч гледачоў. І гэта не выпадкова: традыцыйна на "Лістападзе" дэманструюцца толькі лепшыя кінастужкі з добрым "паслужным спісам".***




*Гледачоў вітае прэзідэнт "Лістапада" Расціслаў ЯНКОЎСКІ.*

Імгненна праляцеў фестывальны тыдзень: паказ фільмаў, сустрэчы з зоркамі экрана, хваляванні перад абвяшчэннем пераможцаў... І зараз мы маем магчымасць пазнаёміць чытачоў з вынікамі "Лістапада-99". На Гран-пры прэтэндавалі такія вядомыя фільмы, як "Варашылаўскі стралок" Станіслава Гаварухіна, "Барак" Валерыя Агароднікава, "Малох" Аляксандра Сакурава, "Блакпост" Аляксандра Рагожкіна, таму ўсе вельмі пільна сачылі за табліцай рэйтынга конкурсных карцін. Фільмам-пераможцам аказаўся "Варашылаўскі стралок" з Міхаілам Ульянавым у галоўнай ролі. Гэта гісторыя пра тое, як правінцыяльны пенсіянер, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, не дабіўшыся справядлівага пакарання для нягоднікаў, якія згвалтавалі яго ўнучку, вырашае самастойна адпомсціць злачынцам.

Прыз журы кінематаграфістаў за лепшы фільм атрымаў "Барак" В. Агароднікава (у ролях Ніна Усатава, Леанід Ярмольнік, Яўгеній Сідзіхін). Маленькі ўральскі гарадок, 1953 год. Героі фільма — жыхары аднаго са шматлікіх баракаў, людзі розных нацыянальнасцей, са сваімі традыцыямі, бедамі, трывогамі, светлым каханнем.

Прыз за лепшую рэжысуру прысуджаны Аляксандру Сакураву за фільм "Малох" (у галоўных ролях Алена Руфанава, Леанід Мазгавой). Карціна расказвае пра адзін дзень з жыцця Адольфа Гітлера і Евы Браўн. Рэжысёра менш за ўсё цікавяць ваенныя рэаліі таго часу, уся яго ўвага скіравана на псіхалогію ўзаемаадносін Гітлера і Евы.

Прызы кінапрэсы атрымалі: за лепшую жаночую ролю — Ніна Усатава ("Барак"), за лепшую мужчынскую ролю — Эвальд Аавік ("Георгікі", Эстонія).

Акрамя таго, спецыяльныя прызы ўручылі спонсары фестывалю — кампаніі "Schwarzkopf &Henkel", "Vesso-Bel", "Belavia", "Print team", Беларускі саюз моладзі і Мінскі фарфоравы завод.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ПРЭМ'ЕРЫ



Прэм'ерай "Сястра мая Русалачка" адкрыў новы тэатральны сезон Дзяржаўны тэатр юнага гледача. Спектакль пастаўлены Людмілай Разумоўскай па казцы Ханса Крысціяна Андэрсена і прызначаны як для дзяцей, так і для дарослых гледачоў — паклоннікаў чыстых і светлых гісторый добрага казачніка.

У ролі Русалачкі (на здымку) актрыса Ала ПАПЛАЎСКАЯ.

**БелТА.**

НАПЯРЭДАДНІ СТАРТАЎ

**МОТАСПОРТ.** Прыемнае паведамленне прыйшло з Міжнароднай федэрацыі мотаспорту. Горад Ваўкавыск празначаны на спартыўнай карце як меса правядзення чэмпіянату свету па мотакросу ў 2000 годзе на матацыклах з каляскамі.

Гэтая падзея абрадуе ў першую чаргу аматараў мотаспорту. У раённым горадзе ў нас чэмпіянаты свету не праводзіліся. І ў той жа час ужо цяпер такое паведамленне стала галаўным болем для арганізатараў. Як вядома, самае прэстыжнае спаборніцтва года запатрабуе немалых фінансавых затрат. Адзін прызавы фонд цягне на 30 тысяч долараў ЗША, а чэмпіянату, намечанаму на 25 чэрвеня, спатрэбіцца і ўладкаванне трасы мотакросу, і расходы па прыёму гасцей. Мясцовая ўлада гарыць жаданнем правесці гэты чэмпіянат, але вельмі спадзяецца і на дапамогу рэспубліканскіх структур.

**ХАКЕЙ.** У снежні сталіца Беларусі прыме ўдзельнікаў маладзёжнага чэмпіянату свету па хакею ў групе "В". Гульні будуць праходзіць на трох арэнах: у Палацы спорту, Лёдавым палацы і Крытым катку. У інспектара міжнароднай федэрацыі хакея Ханеса Эдэрэра засталіся прыемныя ўражанні ад наведвання Мінска. Яго задаволіла падрыхтоўка да правядзення чэмпіянату. Трансляцыя спаборніцтваў пройдзе ў сусветнай электроннай сетцы ў прамым эфіры.

Падрыхтавала
**Каця БЕРАЗОЎСКАЯ.**

ПАДПІСКА-2000

### ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

Працягваецца падпіска на газету **"ГОЛАС РАДЗІМЫ"** ў Расіі, Літве, Кыргызстане, Казахстане, на Украіне. Наш падпісны індэкс на Беларусі 63854.

Магчымы паштовы перавод на адрас "Голасу Радзімы" з паметкай "за падпіску". З іншых краін аплату можна перавесці на валютны рахунак:

3012202935017, Славянскае аддзяленне Беларускага бізнес-банка, код 834, абавязкова з паметкай: "Для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".

ПРЫЗНАННЕ

### ПРЭМІЯ РАФТА

Сёлета ў снежні спаўняецца дзесяць гадоў з дня ўтварэння дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля".

Напярэдадні юбілейнай даты яго кіраўнік Генадзь Грушавы атрымаў прэстыжную нарвежскую прэмію імя Торальфа Рафта. Яна заснавана ў гонар вучонага, які дабіўся унікальных поспехаў у вырашэнні сацыяльных праблем, і лічыцца ў Нарвегіі другой па значнасці пасля Нобелеўскай. Ёю штогод узнагароджваецца толькі адзін лаўрэат за вялікі ўклад у развіццё адукацыі, наладжванне кантактаў паміж народамі. Генадзь Грушавы — другі прадстаўнік СНД, які ўдастоены высокай узнагароды. Дарэчы, з 12 лаўрэатаў прэміі імя Торальфа Рафта чацвёра пазней атрымалі і Нобелеўскую прэмію.

Знамянальна, што сваю дзейнасць дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" пачынаў дзесяціггоддзе таму назад, наладзіўшы кантакты менавіта з Нарвегіяй. Усяго за межамі Беларусі за гэты час з дапамогаю фонду прайшлі аздараўленне 130 тысяч дзяцей.

ЗІМОВЫ НАСТРОЙ

Ніл ГІЛЕВІЧ

### СНЕЖНАЯ ІМПРЭСІЯ

*Белыя*
*сыпяцца долу крышталікі,*
*Белыя*
*крышацца хмаркі ўгары.*
*Сосны*
*захутаны ў белыя шалікі.*
*Белая*
*мітусь у белым бары.*
*Белая*
*мяккая ціша няхрусткая,*
*Белай*
*дрымотай спавіты кусты.*
*Белае*
*белле... Зіма беларуская...*
*Што ж мне*
*не дорыш Снягурачку ты?*



Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

## АСОБА



Міжнародны біяграфічны цэнтр, што знаходзіцца ў Кембрыджы (Англія), уключыў у спіс 2000 вядомых вучоных XX стагоддзя прафесара Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта Освальда-Яна БЕКІША. Гэтага высокага звання доктар біялагічных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ўдастоены за заслугі ў развіцці медыцынскай біялогіі.

**БелТА.**

## МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

**ПА ЗВЕСТКАХ МІНСТАТА,** у перыяд са студзеня па верасень гэтага года Беларусь гандлявала са 143 краінамі. У экспарце асноўнымі гандлёвымі партнёрамі рэспублікі былі Расія, Украіна, Польшча, Італія, ЗША і Літва.

Знешнегандлёвы абарот Беларусі у перыяд са студзеня па верасень склаў 8 мільярдаў 895,8 мільёна долараў ЗША, у тым ліку з краінамі далёкага замежжа — 3 мільярды 395,3 мільёна, з краінамі СНД — 5 мільярдаў 500,5 мільёна долараў ЗША. Агульны аб'ём экспарту ў цэлым склаў 4 мільярды 265,8 мільёна долараў, агульны аб'ём імпарту — 4 мільярды 630 мільёнаў долараў (адмоўнае сальда знешняга гандлю — 364,2 мільёна). Аб'ём экспарту ў краіны СНД склаў 2 мільярды 589,9 мільёна долараў, у дзяржавы далёкага замежжа — 1 мільярд 675,9 мільёна. З краін СНД аб'ём імпарту склаў 2 мільярды 910,6 мільёна долараў, з дзяржаў далёкага замежжа — 1 мільярд 719,4 мільёна.

**У КАНАДЗЕ АДКРЫЎСЯ БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАЦЫЙНА-КАМЕРЦЫЙНЫ ЦЭНТР.** Як паведаміла *прэс-служба МЗС*, галоўнымі задачамі цэнтра, заснавальнікамі якога сталі тры канадскія кампаніі, будзе распаўсюджванне ў Канадзе інфармацыі аб экспартным патэнцыяле беларускіх прадпрыемстваў, іншай інфармацыі аб Беларусі эканамічнага характару: пошук патэнцыяльных канадскіх партнёраў для беларускіх прадпрыемстваў, маркетынг у Канадзе канкрэтнай прадукцыі беларускіх вытворцаў, кансалтынг для беларускіх і канадскіх кампаній па пытаннях гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, вывучэнне кан'юнктуры канадскага рынку, юрыдычнае суправаджэнне здзелак.

**ЮНЫЯ ПАСЛАНЦЫ Ў СУСВЕТНЫМ ПАРЛАМЕНЦЕ.** Унікальная акцыя адбылася ў Парыжы. Нацыянальная асамблея Францыі разам з ЮНЕСКА сабрала Сусветны дзіцячы парламент. На радзіму парламентарызму прыехалі па два прадстаўнікі (дзяўчынка і хлопчык) ва ўзросце ад 14 да 16 год ад кожнай з 187 краін — членаў ЮНЕСКА. Беларусь прадстаўлялі Аляксандр Лапцёнак з 8-й мінскай гімназіі і школьніца з Мар'інай Горкі Вольга Саўрук.

Маладыя людзі падрыхтавалі "Маніфест моладзі для XXI стагоддзя", які адлюстроўвае іх бачанне будучага стагоддзя і свету, у якім мы жывём. Дакумент быў урачыста зачытаны і прыняты ў амфітэатры палаца Бурбонаў. Ён будзе перададзены ў ААН.

## АФІЦЫЙНА

# СУСТРЭЧЫ Ў МАСКВЕ

Старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей, намеснік старшыні Нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкавання 2000-годдзя хрысціянства Аляксандр Білык узяў удзел і выступіў на пасяджэнні Расійскага аргкамітэта па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкавання 2000-годдзя хрысціянства, якое вялі сустаршыні аргкамітэта — старшыня ўрада Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін і Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Аляксій II. У сваім выступленні А. Білык расказаў пра работу Беларускага аргкамітэта з нагоды згаданых планетарных падзей.

Пасля пасяджэння адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Беларусі, Казахстана, Украіны. У ёй удзельнічалі: Патрыярх Маскоўскі і ўсея Русі Аляксій II, старшыня ўрада Расійскай Федэрацыі У. Пуцін, міністр унутраных спраў У. Рушайла, іншыя афіцыйныя асобы. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва Расійскага і Беларускага аргкамітэтаў па падрыхтоўцы да сустрэчы трэцяга тысячагоддзя і святкавання 2000-годдзя хрысціянства. Патрыярх Аляксій II адзначыў той вялікі ўздым, з якім сёлета па тэрыторыі Беларусі прайшоў Хрэсны ход.

Аляксандр Білык узяў удзел у Дні Міністэрства нацыянальнасцей Расіі, прысвечаным дзесяцігоддзю стварэння Дзяржкамнаца Расіі. Тут былі падпісаны Пратакол аб супрацоўніцтве паміж Дзяржкамітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей і Міністэрствам па справах федэрацыі і нацыянальнасцей, а таксама план мерапрыемстваў на 2000 год. З расійскага боку згаданыя дакументы падпісаў міністр В. Міхайлаў.

У час знаходжання ў Маскве адбылася сустрэча з міністрам Расійскай Федэрацыі Р. Абдулаціпавым, падчас якой абмеркаваны пытанні пашырэння супрацоўніцтва паміж нацыянальна-культурнымі аб'яднаннямі нацыянальных супольнасцей Беларусі і Расіі, роля народнай дыпламатыі ў пашырэнні беларуска-расійскага супрацоўніцтва.

## МАНІТОРЫНГ

Паводле справаздачы аб чалавечым развіцці за 1999 год Праграмы развіцця ААН, наша краіна паднялася яшчэ на некалькі прыступак. Цяпер яна займае 60-е месца ў своеасаблівым рэйтынгу, які з'яўляецца індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу.

Адной з галоўных прычын, якая дазволіла Беларусі прасунуцца бліжэй да верхняй часткі спіса, з'яўляецца рост валавога ўнутранага прадукту ў разліку на душу насельніцтва. У 1997 годзе ў Беларусі гэты паказчык быў роўны 4 850 доларам ЗША.

Такім чынам, сярод былых рэспублік СССР толькі Эстонія апярэджвае нашу дзяржаву. На прасторы Садружнасці Незалежных Дзяржаў Беларусь застаецца неаспрэчным лідэрам. З другога боку, нам яшчэ далекавата да краін з пераходнай эканомікай Цэнтральнай Еўропы.

**Юрый ДОМНІЧ.**

## НАВАСЕЛЛІ НА ВУЛІЦЫ МІРУ



**Здадзены ў эксплуатацыю пяць жылых дамоў у саўгасе "Калінкавіцкі", у якіх пасяліліся спецыялісты гаспадаркі. Жыллё і гаспадарчыя пабудовы ўзвялі будаўнікі аб'яднання "Мазырпрамбуд" і БУ-167, а грошы ў аб'ёме 40,8 мільярда рублёў выдзеліла гаспадарка за кошт мэтавага крэдытавання на жыллё для сялян.**

**НА ЗДЫМКУ: новыя дамы па вуліцы Міру ў саўгасе "Калінкавіцкі".**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ФЕСТЫВАЛІ

# ЗАКЛЮЧНЫЯ АКОРДЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Як бачым, пакуль ніводзін з беларускіх фільмаў не адзначаны галоўным прызам, у сувязі з чым Юрый Цвяткоў, намеснік міністра культуры, кінарэжысёр, і жартам і ўсур'ёз сказаў: "Шаноўныя кінематографісты, не спадзявайцеся, што так застанецца назаўсёды. Наступным годам як мінімум дзве нашыя стужкі будуць прэтэндаваць на фестывальныя прызы".

Свята кіно скончылася, мы віншуем пераможцаў, развітваемся да наступных сустрэч.

* * *

**Расціслаў ЯНКОЎСКІ, народны артыст Савецкага Саюза, прэзідэнт кінафестывалю "Лістапад":**

— Думаю, сёлетні фестываль стаў сапраўдным парадам, спаборніцтвам лідэраў, дзе гледачы сустрэліся з высокім мастацтвам. Увогуле, у мяне аптымістычнае адчуванне: лічу, мы выбралі правільны шлях да "Лістапада-2000", які пераносе нас у наступнае тысячагоддзе.

**Барыс АЙРАПЕЦЯН, аўтар сцэнарыя, прадзюсер фільма "Фара", Казахстан:**

— Я ўпершыню на "Лістападзе", і самае прыемнае ўражанне тое, што ў яго так многа гледачоў. Канешне, вельмі парадавала, што наша карціна атрымала такі высокі рэйтынг глядацкіх сімпатый.

**Людміла ЯФІМЕНКА, актрыса, аўтар сцэнарыя і рэжысёр фільма "Ave Maria", Украіна:**

— Галоўная каштоўнасць "Лістапада" ў тым, што конкурсныя фільмы ацэньваюцца гледачамі. Гэта дапамагае наладзіць кантакт з аўдыторыяй, які апошнім часам у значнай ступені страчаны.

**Алег ЯНКОЎСКІ, народны артыст Савецкага Саюза, прэзідэнт кінафестывалю "Кінатаўр":**

— Для мяне прыезд у Беларусь — перш за ўсё сустрэча з роднымі людзьмі: тут я некалі жыў, тут пачынаў. Я лічу, Радзіма — гэта памяць, а памяць звязвае мяне з Мінскам...

**Аляксандр ЯФРЭМАЎ, кінарэжысёр, мастацкі кіраўнік тэатра-студыі кінаакцёра (Мінск):**

— Карцін было вельмі многа. Мне здаецца, прынамсі, палова з іх вартая самага высокага прыза, столькі шчырых сімпатый і самых цудоўных надзей на тое, што з кіно ў бліжэйшы час у нас усё будзе добра.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



*Імгненні фестывалю.*



*Самы юны акцёр Сцяпан ГАЛАЙ.*

**Фота Алега САКАЛОВА і БелТА.**

## 60 ГОД УЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ

# МАЛАВЯДОМЫЯ

Пачатак 20-х гадоў быў адным з пераломных момантаў у гісторыі Беларусі. Вайна Савецкай Расіі супраць буржуазнай Польшчы і далейшыя ўмовы перамір'я зрабілі глыбокі адбітак на лёс беларускага народа. Рыжскі мір (18 сакавіка 1921 года) пакінуў заходнюю частку Беларусі на доўгія 18 год у складзе Польшчы. Далучаная да яе тэрыторыя называлася не інакш, як "усходнія крэсы" і адразу трапіла пад моцны ўціск апаляквання. Грабяжы, пабоі, хабарніцтва, нацыянальнае і рэлігійнае праследаванне, а таксама захоп беларускіх зямель ваеннымі каланістамі — усё гэта характэрныя рысы сістэмы кіравання палякаў на Беларусі. Жорсткі акупацыйны рэжым узняў хвалю народнай барацьбы.

У фондах Нацыянальнага архіва Беларусі знойдзены малавядомыя дакументы аб дзейнасці партызанскіх атрадаў на акупіраванай палякамі тэрыторыі Беларусі. Партызанская барацьба пачалася яшчэ ў сярэдзіне 1919 года, калі польскія інтэрвенты захапілі Вільню, і набыла найбольшы ўздым у 1921—1923 гадах. Асобныя атрады, пераважна з мясцовых сялян, колькасцю ад 200 да 500 чалавек час ад часу рабілі напады на жандарскія, паліцэйскія і нават ваенныя часці. Паступова стыхійныя выступленні набылі арганізаваны характар. У красавіку 1920 года ў Заходняй Беларусі дзейнічала тры буйныя партызанскія злучэнні: на тэрыторыі Мінскай губерні — узброеныя атрады сялян пад кіраўніцтвам "Менчука", Віленшчыну і Гродзеншчыну кантралявалі атаман "Чорт" і Г. Скамарох.

У дакументах маюцца некаторыя звесткі аб "Менчуку" і "Чорце". Латышскія газеты "Рэспублікас Саргс" ("Вартавы рэспублікі"), "Яўнакас Сінас" ("Найноўшыя весткі") і "Сацыял-дэмакратс" у сакавіку 1920 года паведамлялі, што добра ўзброеныя атрады пад кіраўніцтвам "Менчука" паспяхова змагаюцца з польскай жандармерыяй. Барысаўскі і Вілейскі паветы амаль поўнасцю ўзяты пад кантроль партызан. Нават польскі карны атрад трапіў у палон да "Менчука". Больш за ўсё партызаны стараюцца перашкодзіць вывазу за мяжу нарабаванага палякамі лесу і іншай маёмасці Беларусі. З гэтай мэтай яны разбураюць чыгунку, масты, знішчаюць тэлеграфныя і тэлефонныя лініі.

Другі партызанскі атаман выступаў на тэрыторыі Гродзеншчыны пад мянушкай "Чорт". Яго атрад рабіў напады ў раёнах Беластока, Гайнаўкі, Белавежы і іншых мясцінах, дасылаў уладам пагражальныя папярэджанні. Менавіта пад кіраўніцтвам "Чорта" быў здзейснены напад на цягнік, у якім ехалі міністры з Варшавы ў Вільню на ўрачыстасці з нагоды далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы. "Дзеннік Гродзенскі" ад 14 мая 1920 года паведамляе: "...сярод шырокіх колаў мясцовага насельніцтва гэтаму атраду прыдают значэнне як частке арганізаванай беларускай арміі, якая змагаецца за вызваленне свайго роднага краю". Дзеянні гэтага атрада выявілі планамернасць і арганізаванасць, характэрныя для рэгулярнага войска. Несумненна, што атаман "Чорт" — асоба вельмі неардынарная. "Ёсць меркаванне, — піша "Дзеннік



НАШЫ ВІНШАВАННІ!

**Лістапад стаў на Беларусі "латвійскім". Такое ўражанне пакінулі запамінальныя сустрэчы, што адбыліся ў Мінску з прадстаўнікамі беларускіх суполак. Адна з іх — прэзентацыя газеты беларусаў Латвіі "Прамень". Фармальная нагода — пяць год існавання газеты — стала прычынай новай сустрэчы, якая ўзбагаціла ўсіх уражаннямі, знаёмствамі, планамі.**

**Становіцца ўсё больш прыкметным, што дзейнасць беларускіх суполак у Латвіі набірае моц. Энергічныя, ініцыятыўныя, добразычлівыя нашы суродзічы змаглі зацвердзіць сябе добрымі справамі як у краіне пражывання, так і на Беларусі. Таму так шмат сяброў і дзелавых партнёраў сабрала прэзентацыя "Праменя". Сёння газета стала важнай часткай жыцця беларускай дыяспары ў Латвіі. Аб тым, як адбывалася станаўленне "Праменя", успамінаюць яго стваральнікі.**




Ідэя выношвалася даўно. І невядома, колькі яшчэ вяліся б размовы наконт свайго друкаванага выдання, калі б не імклівае развіццё тагачасных падзей. І надзвычай спрыяльных: толькі што адкрылася беларускае пасольства ў Латвіі, склаўся моцны прадпрымальніцкі корпус. З другога боку, вельмі абвастрылася патрэба ў інфармацыі са сваёй Радзімы і абмен звесткамі паміж беларусамі, якія пражываюць ва ўсіх рэгіёнах Латвіі. Яны зразумелі драматызм свайго становішча ў сувязі з увядзеннем граніц і ўсвядомілі, што адкрытай дарогі ўжо не будзе. А гэта больш за 120 тысяч чалавек. Іх трэба было супакоіць, растлумачыць сітуацыю.

Гэтыя і многія іншыя функцыі павінна была ўзяць на сябе агульнабеларуская газета. Ініцыятыва яе выпуску належыць тады яшчэ малавядомай суполцы "Прамень".

**Яе тагачасны кіраўнік Алесь Карповіч** успамінае:

— Склікалі канферэнцыю беларусаў Латвіі, удзельнікі якой падтрымалі наш пачын. Была зацверджана рабочая група, узначаліць якую я прапанаваў прафесійнаму журналісту, выпускніку Беларускага дзяржаўнага універсітэта Лявону Шакаўцу.

**Старэйшы член суполкі Міхась Грасюкоў:**

"Справа рухалася больш-менш добра. Не было толькі назвы газеты. Прапаноўваліся розныя, але яны не задавальнялі членаў рады. Я неяк сказаў, што няхай газета носіць назву нашай суполкі — "Прамень". Усе падтрымалі маю прапанову".

**Лявон Шакавец, рэдактар газеты "Прамень":** "Я помню той самы хвалюючы дзень, калі мы трымалі ў руках першы нумар газеты беларусаў Латвіі "Прамень". Так быў пакладзены пачатак адраджэнню беларускага друкаванага слова ў Латвіі, перапыненага пэўнымі падзеямі 75-гадовай даўнасці".

Далейшая дзейнасць газеты прывяла да ажыўлення ў беларускім асяроддзі Латвіі, да стварэння беларускіх таварыстваў, такіх, як "Уздым" у Даўгаўпілсе, "Мара" ў прыморскім горадзе Ліепаі, "Спадчына" ў Вентспілсе, горадзе, праз які ідзе грузапаток з Беларусі. Зараз у Латвіі зарэгістравана 7 беларускіх аб'яднанняў.

Характар матэрыялаў газеты, апроч аб'яднаўчых тэндэнцый, адраджэнцкі: узнаўленне традыцый беларускай культуры, звычаяў, беларускага быту, абрадаў. Многа ўвагі нададзена нацыянальнай беларускай мове, гісторыі. У цэнтры ўвагі газеты — нацыянальная самаідэнтыфікацыя, абарона правоў этнічных беларусаў, якія пражываюць у Латвіі. Выданне добразычліва адносіцца да сваёй гістарычнай Радзімы, аказвае садзейнічанне ўмацаванню дзелавых, творчых, культурных кантактаў з беларускімі арганізацыямі, прадпрыемствамі і ўстановамі.

На старонках газеты "Прамень" беларусы Латвіі, незалежна ад іх маёмаснага становішча, маюць магчымасць размясціць уласныя публікацыі, уступіць у палеміку. Газеце давалі інтэрв'ю дзяржаўныя дзеячы Беларусі і Латвіі, вядомыя прадстаўнікі беларускай культуры, парламентарыі, міністры, тут асвятляліся ўсе візіты дзяржаўных дзеячаў Беларусі ў Латвію. Важнае значэнне газета надае асвятленню палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь, працэсаў развіцця дзяржаўных інстытутаў суверэннай Беларусі. Галоўны рэдактар "Праменя" неаднойчы сустракаўся з кіраўніцтвам Тэхнічнага цэнтра МАЗ у Рызе, сумеснага беларускага прадпрыемства "МТЗ-сервіс" у Гублене, удзельнікамі міжнародных выстаў "Belarus Expo-97 і 99", "Рамава", на якіх дэманстравалася прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў.

Заслуга газеты і ў тым, што яна прыцягвала беларусаў Латвіі да актывізацыі правядзення сумесных беларуска-латвійскіх культурна-этнічных мерапрыемстваў. Адно з іх пры падтрымцы газеты і таварыства "Прамень" праведзена ў ліпені. Гэта фестываль "Мастацтва, традыцыі і майстэрства беларускага народа".

Не застаецца па-за ўвагаю газеты і жыццё беларускай дыяспары Латвіі. Маюць добры водгук рубрыкі "Як жывеш, беларус?", нарысы, героямі якіх з'яўляюцца простыя беларусы са сваімі зайздроснымі і незайздроснымі лёсамі, члены беларускіх суполак, беларускія прадпрымальнікі, пасланцы нашай Радзімы — дыпламаты. Адным словам, газета знайшла свайго чытача.

**Рэдакцыя штотыднёвіка "Голас Радзімы" віншуе калег з Латвіі з пяцігоддзем газеты "Прамень", зычыць плёну і даўгалецця.**

ЗДАРЭННІ

## ЭКС-ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР ВЫЗВАЛЕНЫ З-ПАД ВАРТЫ

"З улікам таго, што сёння следства па справе завершана, няма падстаў лічыць, што Міхаіл Чыгір перашкодзіць расследаванню, а таксама ў сувязі з тым, што ад яго атрымана запэўненне, што ён з'явіцца па першаму патрабаванню ў суд, мера стрымання — арышт будзе зменена на падпіску аб нявыездзе", — паведаміў намеснік Генеральнага пракурора Беларусі Пётр Іваненка.

Следства было закончана 1 кастрычніка 1999 года. Са справай азнаёміліся ўжо сам абвінавачваны, яго грамадскі абаронца, адвакат. Састаўлена абвінаваўчае заключэнне, якое накіравана на разгледжанне Генеральнаму пракурору. Неўзабаве адбудзецца суд.

Міхаілу Чыгіру інкрымінуецца халатнасць, злоўжыванне службовым становішчам.

## ПАГРОЗА СНІДу

Ад СНІДу ў Беларусі памёр 21 чалавек. Як паведаміў намеснік галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Беларусі, галоўны ўрач Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІД Валерый Глазоўскі, у Беларусі на 1 лістапада бягучага года зарэгістравана 2 645 носьбітаў ВІЧ-інфекцыі, дыягназ "СНІД" устаноўлены 26 ВІЧ-інфіцыраваным.

## НАРКОТЫКІ КАНФІСКАВАНЫ

Буйную партыю наркотыкаў на суму каля 55 тысяч долараў канфіскавалі ў Мінску супрацоўнікі МУС. Узялі падазраваемага ў захоўванні наркотыкаў у памяшканні "Бізнес-кафэ". У яго было знойдзена і канфіскавана 272 грамы гераіну.

**Падрыхтавала Ірына ГАЙ.**

# ДАКУМЕНТЫ

Гродзенскі", — што пад псеўданімам "Чорта" хаваецца нейкі Іван Чыжык". На жаль, больш ніякай інфармацыі пра гэтага таленавітага партызанскага камандзіра дакументы не пакінулі.

Больш дакладныя звесткі захаваліся пра ўраджэнца вёскі Грабавец Бельскага павета Гродзенскай губерні атамана Германа Скамароха (сапраўднае прозвішча — Шыманюк-Нарыш). Яго лёс гераічны і трагічны, як і большасці змагароў за незалежнасць Беларусі. Партыйная прыналежнасць Г. Шыманюка дакладна не высветлена, магчыма, левы сацыяліст-рэвалюцыянер. Па ўскосных звестках, ён быў таксама эмісарам вядомай рэвалюцыянеркі Маслоўскай, арыштаванай палякамі ў сакавіку 1922 года. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Скамарох правёў нейкі час у Расіі і з пачаткам савецка-польскай вайны вярнуўся на Беларусь. На Гродзеншчыне арганізаваў партызанскі штаб і спрабаваў аб'яднаць асобныя атрады пад сваім кіраўніцтвам. Найбольш значнай акцыяй атрада Скамароха быў захоп у пачатку красавіка 1922 года тэлеграфнай станцыі, адкуль ён накіраваў ультыматум да Начальніка Польскай дзяржавы Пілсудскага (копія старшыні Лігі нацый). Гэты дакумент, па сутнасці, з'яўляецца палітычнай праграмай Скамароха, таму прыводзім яго асноўныя палажэнні: "...Мы ўпаўнаважаны ад імя 15 тысяч партызан і ўсяго сялянства паветаў: Беластоцкага, Бельскага, Брэст-Літоўскага, Ваўкавыскага, Пружанскага і інш. звярнуцца да вас, сп. Пілсудскі, і праз вас да ўсяго польскага народа аб прызнанні нашых ніжэйуказаных законных патрабаванняў:

1. У імя справядлівасці чалавечых праў адмовіцца ад дамаганняў на Беларусь і прызнаць яе права на самаазначэнне як нацыі.

2. Неадкладна спыніць вульгарныя рэпрэсіі да ўсіх беларусаў, а таксама спыніць апячатванне праваслаўных храмаў, арышты свяшчэннікаў, вобыскі, пабоі ўсіх палітычных дзеячаў і інш. і прызнаць недатыкальнасць да ўсяго беларускага.

3. Неадкладна вызваліць з турмаў усіх арыштаваных палітычных беларусаў, якія зняволены ў перыяд з 1 студзеня 1922 года па 2-е красавіка, г. зн. па дзень атрымання данага.

4. Неадкладна спыніць высечку лесу і вывазку яго ў Польшчу, а таксама спыніць вывазку рознага матэрыялу: машын, лесапілак, чыгуначных машын і іх частак і г. д.

5. Неадкладна падрыхтаваць да эвакуацыі польскія ваенныя часці, жандарскія атрады, вышуковыя аддзелы і паліцыю.

6. Дзяржаўныя ўстановы і іх маёмасць павінны быць поўнасцю перададзены, а таксама і народныя банкі Беларускага краю як уласнасць беларускага народа.

7. Неадкладна склікаць змешаную камісію для перадачы розных спраў і вырашэння экстранных пытанняў".

Дзеянні партызан выклікалі ў Польшчы, асабліва ва "ўсходніх крэсах", сур'ёзную заклапочанасць. Мабілізаваныя з усяго Беластоцкага ваяводства рэгулярныя польскія войскі, жандармерыя і паліцыя 6 мая 1922 года акружылі раён Белавежскай пушчы. У палон трапіла 19 партызан, у тым ліку жонка Г. Скамароха — Лізавета Шыманюк. Адначасова ў заложніках апынулася сям'я атамана: 59-гадовы бацька ад здзекаў страціў розум; маці, 54 год, польскія жандары перабілі руку; яго жонка на 7 месяцаў трапіла ў турму; брат быў зняволены на 4 месяцы і захварэў на сухоты. Шыманюк здолеў выратавацца і перабраўся ў Коўна.

Бюлетэні Беларускага прэсбюро паведамлялі аб шматлікіх рэпрэсіях і злачынствах палякаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Так, у сакавіку 1920 года ў Ігуменскім павеце Мінскай губерні польская жандармерыя расстраляла з кулямётаў 200 сялян, якія аказвалі дапамогу партызанам. У горадзе Слуцку арыштавана па абвінавачванню ў спачуванні паўстанцам 150 чалавек. Паўстанні падаўляліся з асаблівай жорсткасцю: у Мінскім павеце польская артылерыя знішчыла 3 вёскі разам з жыхарамі. Пералік фактаў можна працягваць і далей. У свой час на гэтую праблему звярталі вялікую ўвагу беларускія нацыянальныя дзеячы К. Езавітаў, А. Луцкевіч, А. Цвікевіч і іншыя.

Паступова кіраўніцтва партызанскім рухам перайшло да Беларускага стралецкага саюза (БСС), які ўзнік як кіруючы цэнтр беларусаў-партызан, што ўваходзілі ў склад Літоўскага саюза стральцоў (шаўлісаў). Старшынёй БСС быў прызначаны беларускі дзеяч А. Карабач (Карач). Служба беларусаў у радах ЛСС мела пэўныя вынікі: выпадкі пакарання некаторых польскіх грамадскіх і палітычных дзеячаў, ураднікаў. Усё гэта рабілася ў імя беларускай нацыянальна-палітычнай справы, але было скарыстана літоўцамі на сваю карысць. У выніку — супрацоўніцтва паміж урадамі Літвы і БНР у справе сумеснай барацьбы супраць Польшчы было часова прыпынена.

10 лютага 1923 года антыпольскія арганізацыі Беларусі, Літвы і Украіны аб'ядналіся на скліканым у Берліне з'ездзе актыўных ворагаў Польшчы. Прадстаўнікі Саюза літоўскіх шаўлісаў, галіцыйскіх стралкоў і аднаўленага БСС, а таксама ўрада БНР П. Крычэўскі, А. Ластоўскі, А. Цвікевіч дамовіліся аб сумесных дзеяннях на бліжэйшы час. У прыватнасці, тэрыторыя Заходняй Беларусі была падзелена на 3 ваенныя акругі: 1-я — Браслаўскі, Дзісенскі, Данілаўскі, Вілейскі і Валожынскі паветы; 2-я — Навагрудскі, Нясвіжскі, Баранавіцкі, Слонімскі, Пінскі і Лунінецкі; 3-я — Кобрынскі, Брэст-Літоўскі, Пружанскі, Ваўкавыскі, Беластоцкі і Бельскі. На 6 сакавіка 1923 года ў 1-й акрузе было арганізавана да 3-х тысяч чалавек; у 2-й — 100—200 тысяч і ў 3-й — да 2-х тысяч партызан. На май было запланавана правядзенне тэрарыстычных актаў па ўсёй акупіраванай тэрыторыі Беларусі.

Дзейнасць БСС працягвалася прыкладна яшчэ 2 гады і была прыпынена адначасова з самалiквідацыяй урада БНР восенню 1925 года. Такім чынам, партызанскі рух меў усенародны характар і выступаў пад лозунгам — "Незалежная свабодная Беларусь!" Толькі 17 верасня 1939 года з дапамогай Чырвонай Арміі адбылося гістарычнае ўз'яднанне беларусаў у адзінай дзяржаве. Сёння як нельга дарэчы нагадаць вядомы выраз: "Назаўсёды разам!"

**Уладзімір КУШМІРАЎ,
галоўны архівіст
Нацыянальнага архіва
Рэспублікі Беларусь.**

СПОРТ

## ТУРНІР ПАМЯЦІ ЖУРНАЛІСТА

Пяты раз у Мінску ў Нацыянальным цэнтры шахмат і шашак прайшлі спаборніцтвы па маланкавай ігры ў шахматы, прысвечаныя памяці вядомага беларускага журналіста і шахматыста Юрыя Новікава. У гэтым годзе традыцыйны турнір сабраў рэкордную колькасць удзельнікаў: 115 спартсменаў з розных раёнаў рэспублікі і Мінска. У турніры ветэранаў, які прайшоў па швейцарскай сістэме ў 11 тураў, прынялі ўдзел шахматысты ва ўзросце ад 55 да 78 гадоў. Тут пераможцам стаў мінчанін міжнародны майстар Абрам Ройзман, які набраў 10,5 ачка з 11 магчымых. На паўтара ачка адстаў кандыдат у майстры Уладзімір Шчаколдзін. Прызёрамі сталі таксама кандыдаты ў майстры Аляксандр Радомскі і Валерый Камісараў, якія падзялілі 3-е—4-е месцы.

У масавым турніры (гралі 62 спартсмены) пераможцам стаў кандыдат у майстры Андрэй Малюш, які набраў 9 ачкоў з 11 магчымых. Пуцёўкі ў фінальны турнір заваявалі таксама кандыдаты ў майстры Ігар Ратковіч, Дзяніс Трыфанаў, Эдуард Календік, Павел Макевіч (Мінск) і Аляксандр Нікіцін (Магілёў).

Вельмі моцны склад сабраў галоўны турнір, у якім выступілі міжнародны гросмайстар Вячаслаў Дыдышка, 14 майстроў спорту і пераможцы адборачнага турніру. Першы прыз заваяваў В. Дыдышка, ён набраў 9 ачкоў з 11. Прызамі, устаноўленымі спонсарамі — мінскім прадпрымальнікам Пятром Герасімовічам і міжнароднай тэлерадыёкампаніяй "Мір", былі адзначаны Сяргей Азараў, Андрэй Малюш, Дзяніс Трыфанаў (Мінск) і Сяргей Талдаеў (Гродна).

ДА 200-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ А. ПУШКІНА

# «У КОЛЕ ЗНАЁМЫХ І СЯБРОЎ»

Адна з падзей адыходзячага года — выстава "Пушкін. У коле знаёмых і сяброў" з фондаў Пушкінскага музея-запаведніка ў Міхайлаўскім. На выставе мінчанам былі прадстаўлены графічныя работы заслужанага мастака Расійскай Федэрацыі Аляксандра Стройла. Мастаку ўдалося перадаць паэтычны настрой пейзажаў Міхайлаўскага. Сілуэтныя партрэты сучаснікаў Пушкіна ўводзяць у кола сяброў паэта. Тут Яўген Баратынскі і Адам Міцкевіч, Антон Дэльвіг і Васіль Жукоўскі, Кандрацій Рылееў і Аляксандр Бястужаў, многія іншыя. Камерны характар выставы ў поўнай меры захаваў дух эпохі Пушкіна.

НА ЗДЫМКАХ: экспазіцыю прадставіў дырэктар музея-запаведніка "Міхайлаўскае" наш зямляк Георгій ВАСІЛЕВІЧ; на выставе — прадметы быту пушкінскай эпохі; "Гарадзішча Врэў" у наваколлі Міхайлаўскага — адна з работ мастака Аляксандра СТРОЙЛА.

**БелТА.**







СПАДЧЫНА

# БАРКАЛАБАЎСКІЯ СВЯТЫНІ

Калісьці люд з усяго наваколля хадзіў да баркалабаўскіх святынь. Вабілі два храмы Узнясенскага Баркалабаўскага жаночага манастыра, што за паўтара кіламетра ад Баркалабава на дняпроўскай кручы. Вабіла святло вучонасці, бо ў вёсцы была царкоўнапрыходская школа, дзейнічала школа і ў манастыры, дзе навучалася да 20 дзяўчынак. А яшчэ раней у князя Баграна Саламярэцкага, які ажаніўся з дачкою Баркулаба Корсака Еваю, хатнімі настаўнікамі працавалі вядомыя асветнікі Лаўрэнцій Зізаній і Мялецій Сматрыцкі, аўтары славутых "Азбукі" і "Граматыкі". Дык ці дзіўна, што менавіта на гэтай зямлі нарадзіўся "Баркалабаўскі летапіс" — выдатная хроніка і гісторыка-мемуарны твор! Храналагічна ён ахоплівае падзеі 1545—1608 гадоў, але сістэматычнае апісанне пачынаецца з 1564 года — часу заснавання Баркулабам Корсакам замка і вёскі. На жаль, аўтар не пакінуў для гісторыі свайго прозвішча, хто ён быў. Так і хочацца падумаць: а раптам жанчына? Вучоныя лічаць, што аўтар — чалавек свецкі, з сялян, бо кроўю сэрца апісваў жыццё, побыт і пакуты мясцовых сялян. "Было жалосно и страшно гледите и выповедите уздыхания и плачу людей убогих, пашников намаетных", якія пасля марозу сярод лета, а потым засухі галадалі, пакідалі абжытыя мясціны, жабравалі, прастойваючы гадзінамі каля чужога плота ці брамы: "Матухно, зезюлюхно, утухно, панюшко. Сподариня, солнце, месяц, звезнухо, дай крошку хлеба!" або: "Сподариня, перепелочко, зорухно, зернетко, солнушко, дай ложечку дитяти варевца сырого!" "Тут же подле ворот будет стояти зраня до обеда и до полудня, так то просячи: там же другой, под плотом и умрет..."

Жаночы манастыр быў заснаваны ля Баркалабава па завету Алены Саламярэцкай-Статкевіч у 1633 годзе. Ён існаваў тры стагоддзі. Колькі жаночых лёсаў, драм, спадзяванняў скрыжавалася тут! Колькі сумных і мудрых жаночых вачэй глядзела ў вечныя воды Дняпра! Колькі спрактыкаваных рук і розумаў вяло тут добрую гаспадарку, навучала дзяўчат! Манастыр паміраў тройчы. У 1930 годзе яго закрылі атэісты. У 1943-м храмы ўзарвалі нямецкія фашысты, каб загаціць для сябе цэглай мясцовую пясчаную дарогу. А ў 1986-м яго накрыў Чарнобыль. І калі пасля вайны ў будынках манастыра месціўся спачатку дзіцячы дом, потым бальніца, піянерскі лагер, то цяпер на нас глядзяць пустыя аканіцы: трымаць дзяцей з-за радыяцыі тут нельга. Толькі сумна шапоча лістота векавых таполяў, вязаў ды ліп, якія так многа пабачылі, так многа помняць. Ды сумныя вочы Баркалабаўскай Божай маці пазіраюць на кожнага, хто прыходзіць ёй пакланіцца ў Троіцкую царкву ў Быхаве.

Цікавая гісторыя гэтай іконы. Ёсць падан-



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

*Навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці Ларыса РАМАНАВА (на здымку) з захапленнем ездзіць у фальклорныя экспедыцыі па Веткаўскаму, Кармянскаму, Чачэрскаму раёнах, адкуль прывозіць найцікавейшыя матэрыялы для музея.*

НАВІНЫ З АРХІВАЎ

# ПАБРАЦІМЫ

## НАВУКОВЫЯ КАНТАКТЫ БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ

Нядаўна ў прыгожым горадзе над Дняпром з паэтычнай назвай Рэчыца прайшла міжнародная канферэнцыя — Другія чытанні, прысвечаныя асэнсаванню духоўнай спадчыны яркага прадстаўніка беларускай гістарыяграфіі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, аўтара многіх грунтоўных прац па гісторыі, дзве з якіх — "Гісторыя Беларусі" і "Асновы дзяржаўнасці Беларусі" перавыдадзены ў 1994 годзе і, па сутнасці, ужо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, Мітрафана Доўнар-Запольскага. Найперш трэба сказаць шчырае слова ўдзячнасці ягоным землякам, кіраўнікам Рэчыцкага раёна, якія шануюць светлую памяць пра гэтага выбітнага грамадскага дзеяча і навукоўца, проста слаўнага чалавека, якому ў горадзе на Дняпры стаіць вельмі прыстойны помнік. І запачаткаваная традыцыя чытанняў — таксама важкае сведчанне неабыякавага, шчыра зацікаўленага стаўлення да таго, што было на нашай зямлі, чым з поўнай на тое падставай мы можам ганарыцца. На гэтым прадстаўнічым форуме, які праходзіў тры дні, з дакладамі, прамовамі і паведамленнямі выступалі як вядомыя навукоўцы з Беларусі, так і з-за яе межаў. Матэрыялы чытанняў павінны неўзабаве з'явіцца асобнай кнігай.

Прысутнічаў там і, зразумела, выступаў, як заўсёды, з канкрэтнымі і свежымі думкамі, здабытымі падчас працы над дакументамі, наш сталы аўтар, супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан, які, аддамо належнае, апрача навуковых здабыткаў, умее сыходзіцца з людзьмі, наладжваць сяброўскія повязі. Дзякуючы гэтаму, з лёгкай рукі Віталя Уладзіміравіча на старонках "Голасу Радзімы" з'явілася нямала цікавых матэрыялаў, перададзеных у рэдакцыю праз яго ці непасрэдна дасланых "намоўленымі" аўтарамі...

На гэты раз яго асабліва зацікавіла выступленне госця з братняй Украіны, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры гісторыі і паліталогіі Нацыянальнага універсітэта "Киево-Могилянська Акадэмія" Юрыя Мыцака. Радуе, што шаноўны госць ветліва пагадзіўся супрацоўнічаць з "Голасам Радзімы" і перадаў у газету матэрыял, які, спадзяёмся, зацікавіць нашых чатачоў. Бо ў ім — цікавая і значная старонка з гісторыі беларуска-ўкраінскага пабрацімства, якое вынікае з агульнасці нашых лёсаў, налічвае шмат стагоддзяў і, мяркую, павінна асабліва ўзмацніцца ў гэты нялёгкі і трывожны для нашага народа час, калі надзвычай важна для духоўнага ўзмацавання свайго нацыянальнага "я" адчуванне братняга локця, што, як сведчыць і гэтая публікацыя, было вельмі актуальным і карысным на пачатку стагоддзя, калі нашы народы актыўна выступілі на арэну гістарычнага быцця. І сёння мы ў гэтым стратэгічным памкненні ідзём супольна, куды больш паяднана, чым гэта можа здавацца на знешні, неглыбокі погляд, бо тое, як будзе ў нас, хацеў бы гэтага хто ці не, а немінуча адгукнецца і на Украіне, таксама, як сённяшняя ўкраінская, як ніякая, магчыма, іншая, сітуацыя ўплывае на наш менталітэт, нашае самаўсведамленне, адчуванне сваёй ролі і існасці ў вялікім славянскім сумоўі братніх народаў, дзе няма малых і вялікіх, прыніжаных і ўзвышаных, а ёсць роўныя і раўнапраўныя...

Уступнае слова шаноўнага спадара Юрыя Мыцака да знойдзеных ім у архіве важных для нашай гісторыі матэрыялаў, зразумела, напісана па-ўкраінску і перакладзена на беларускую мову аўтарам гэтых радкоў. Што датычыць дакументаў, а гэта лісты слынных культурных, грамадскіх і палітычных дзеячаў пачатку XX стагоддзя Івана Луцэвіча (Янкі Купалы), Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага, то лексіку, стылістыку і правапіс іх мы пакідаем нязмененымі, такімі, як яны пісаліся тады. Ну а той, хто добра ведае ўкраінскую мову, без цяжкасцяў заўважыць прыкметы немаўлячай няўпэўненасці ў першых вучнёўскіх кроках Івана Луцэвіча ў авалоданні на пісьме гаворкай нашых дарагіх пабрацімаў, любоў і прыязнасць да якіх у народнага песняра, як вядома, былі не паказнымі і змушанымі, а глыбокімі і арганічнымі, пра што ён пазней засведчыць сваімі паэмамі "Тарасова доля", "Бандароўна", многімі вершамі і публіцыстычнымі выступленнямі. Першыя крокі на гэтым вялікім шляху братняй любові — для гісторыі таксама вельмі важныя, бо для гэтай "пані" цікава і значна абсалютна ўсё, што звязана з жыццём і дзейнасцю асоб такога ўзроўню, як удзельнікі нашай сённяшняй публікацыі.

Шаноўны спадар Юрый Мыцак пад кожным лістом дае яго архіўны "пашпарт", мабыць, спадзеючыся, што нашы нястомныя архівісты і гісторыкі дападуць і да Нацыянальнага архіва Украіны ў Кіеве, дзе напэўна іх чакае цікавы пошук і не менш цікавыя адкрыцці новых старонак нашага славянскага пабрацімства. Месяцы, якімі датаваны лісты беларускіх карэспандэнтаў Міхайлы Грушэўскага, мы, як у арыгінале, пакідаем па-ўкраінску, даючы ў дужках беларускія адпаведнікі. Выказваем тут шчырую ўдзячнасць шаноўнаму пану прафесару за публікацыю і спадзяёмся на далейшае сяброўскае пабрацімства.

**Яўген ЛЕЦКА.**

**Юрый МЫЦАК:**

## КАШТОЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ПР

Міхайло Грушэўскі (1866—1934) адыграў выдатную ролю ў грамадска-палітычным і навуковым жыцці Украіны XIX—XX стагоддзяў. Дастаткова сказаць, што менавіта ён быў кіраўніком Цэнтральнай Рады на Украіне ды Украінскай Народнай Рэспубліці ў 1917—1918 гадах; менавіта ён ёсць найвыдатны ўкраінскі гісторык, спадчына якога ўсё больш актыўна вяртаецца з вымушанага забыцця... Нядаўна стала магчымым працаваць над матэрыяламі раней строга засакрэчанага асабістага архіва вучонага, які складае цяпер асобны фонд (№ 1235) Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Украіны ў Кіеве (далей — ЦДГА). У гэтым архіве сярод іншых каштоўных дакументаў зберагаецца звыш 13 тысяч лістоў, пісаных Грушэўскаму яго шматлікімі адрасатамі з розных канцоў Украіны і свету, у тым ліку і з Беларусі. Асобныя з лістоў, дасланых беларускімі карэспандэнтамі, ужо ўведзены намі ў навуковы ўжытак. Так, пра лісты М. Доўнар-Запольскага да Грушэўскага намі было зроблена паведамленне на міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай гэтаму выдатнаму беларускаму навукоўцу, што праходзіла ў Рэчыцы 23—25 верасня 1999 года. Тут жа падаём тэксты пяці лістоў да Грушэўскага, дасланых з Вільні супрацоўнікамі славутай беларускай газеты "Наша ніва". З тых лістоў першым па часе быў напісаны Антонам Луцкевічам. Адпаведна, першым да яго звярнуўся і М. Грушэўскі, просячы, каб той напісаў (верагодней да рэдагаванага Грушэўскім "Літаратурно-Науко-

вого В... ве) ар... нальн... ахі... тычнь... скага... му ст... цэйскі... кула)... віч заг... па дар... (праз... ву" х... рыць... быць,... жа б... Груш... быў... устан... зання... магчь... быдас...

Яш... дае... супра... віленс... 1914... чонага... Купал... ве". П... саны... ўкраін... розка... лять...

Нар... Груш... ным... грама... Ласто... мам "... 1910... "Карс... 1911... гістар... праця...

ВЫСТАВА ЗЕМЛЯКА


Фота Рамана КАБЯКА. БелТА.

**З цікавасцю сустрэлі брэстчане выставу свайго земляка мастака Дзмітрыя ЯКУЦЕНІ, які жыве зараз у Санкт-Пецярбургу. Ён скончыў Ленінградскі інстытут мастацтваў і застаўся працаваць у горадзе над Нявой. Дзмітрый Васільевіч — член Саюза мастакоў Расіі і Маскоўскага міжнароднага фонду мастакоў.**

УРАЖАННІ

# *У ЧАС, КАЛІ ЛЮДЗІ ЛЯТАЮЦЬ...*

Ці знаёма вам пачуццё палёту?
Ці ведаеце вы, калі лятаюць
людзі?
У гэту пару ў паветры пахне
сырой зямлёй, кожная кропля
дажджу як бы цалуе вас,
а халодны
вецер стараецца разраўнаваць
маршчыны на вашай душы.
Час, калі гэта здараецца,
мае назву вясна,
месца, дзе гэта бывае, Радзіма,
а людзей,
якія здольныя лятаць, лічаць
шчаслівымі.

Аўтобус спазняецца. Мяне радуе затрымка. Яшчэ некалькі хвілін бледную скуру лашчыць рудое сонейка, вецер трэпле валасы, вырывае з рук хустку, гнеўна раскідвае яркія паперы ад "райскіх асалод" уздоўж сумных краслаўскіх вулачак — імкнецца ачысціць гарадскія вуліцы ад гразі. Вакол мяне стаяць маскі — разумныя, нецярплівыя, злыя, абыякавыя, такія непадобныя на гарэзлівых, вясёлых вераб'ёў.

Вось і аўтобус. На ім шыльда "Верхнядзвінск — Даўгаўпілс".

...Усмешка шафёра ў гадах... цёмны салон... свабоднае месца побач з бабуляй у каляровай хустцы, чые вочы глядзяць так ласкава, што ў грудзях растае кавалачак ільду.

Цяпер цяжка растлумачыць, як здарылася, што дзве гадзіны ў аўтобусе перанеслі мяне ў свет Мінулага.

Маленькі домік з драўляным дахам, трава колеру кашачых вачэй, вакол — балоты, дзе мох пакрыты коўдрай сакавітых журавін... Раніцай буслы будзяць вёску вясёлым трэскам... Бярозы, падобныя на распусных дзяўчат, якім гарэзлівы вецер лахмаціць косы... Азёрная вада там нагадвае смак цукру, і нават зімой у паветры пахне падсыхаючым сенам. Гэта краіна мае назву Радзіма.

Мая спадарожніца лічыць сябе шчаслівай, бо ўсё сваё жыццё пражыла там, у роднай краіне: працавала, кахала, пакутавала ад таго, што кахала. Яна спаткала Яго вясной у халодным начным трамваі, у горадзе, дзе растуць каштаны. У тую ноч не спявалі салаўі і зоркі не дарылі свой свет закаханым, бо гэта была ноч сорак першага, а прырода заўсёды чуе набліжэнне Гора. Яны развіталіся хутка, а яшчэ праз нейкі час Ён пайшоў у свет, адкуль не шлюць вестак. Яго апошнім прыстанішчам стаў латвійскі горад, дзе па дзіўнай выпадковасці таксама кожную вясну сотні каштанаў запальваюць свечкі, каб у цёмную ноч асвятляць шлях закаханым, але ўжо не для Яго і не для Яе.

Дзіўны гэты горад пачынаецца з могілак. Усіх, хто ўваходзіць у яго, вітаюць рады крыжоў. Для маёй спадарожніцы гэта апошні прыпынак. Прыязджае яна сюды кожную вясну ў дзень іх спаткання ў халодным трамваі, напярэдадні дня, калі скончылася вялікае вар'яцтва ўсяго свету, калі ў людзей з'явілася надзея пачуць цішыню, у якой бы зноў заспявалі салаўі.

Развітваючыся са мной, мая спадарожніца цалуе мяне — у ласкавых сумных вачах, якія я ніколі зноў не сустрэну, стомлены боль. Яна паклоніцца гэтай зямлі, што прытуліла яе каханне, і папросіць прабачэння. Жывыя ж заўсёды вінаватыя перад памерлымі.

Губляю з поля зроку адзінокую постаць, застаецца толькі позірк, які сагравае нават у сне, калі я бачу ізумрудны дворык, драўляны дах, адчуваю аскомісты смак спелых журавін, чую прывітальны трэск гордых птушак.

Аўтобус з Мінулага ідзе, ідзе ў іншую краіну, дзе людзі збераглі ў сабе сілу пераадольваць адлегласць, межы, узведзеныя злом, каб пакланіцца магіле.

Я застаюся з надзеяй спаткаць калі-небудзь падобны горад, дзе кожную вясну цвітуць каштаны, адчуць на сабе цёплы позірк, пачуць ласкавае "дзяўчынка, калі ласка..."

Застаецца жаданне спаткаць прыгожых свабодных буслоў, якія ў палёце сваімі вялізнымі крыламі абдымаюць усю зямлю, быццам хочуць аб'яднаць яе. Я ведаю, што толькі яны могуць перадаць прывітанне тым сумным ласкавым вачам.

**Жанна КАРАВАЦКАЯ,**
**студэнтка Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта.**
Латвія.

КУЛЬТУРА

## ЯШЧЭ АДЗІН ПОМНІК КАЛІНОЎСКАМУ

Помнік публіцысту, паэту, дзеячу беларускага нацыянальнага адраджэння Кастусю Каліноўскаму афіцыйна адкрыты ў літоўскім горадзе Шальчынінкаі. Ідэя стварэння такога помніка належыць Шальчынінкайскаму цэнтру беларускай культуры. Па заказу Міністэрства культуры Беларусі яго зрабіў наш зямляк — вядомы скульптар Валяр'ян Янушкевіч.

ЗАМЕЖЖА

# СЛОНІМЦЫ

Па розных прычынах і абставінах пакінулі родную Слонімшчыну мае землякі. Большасць з іх эмігрыравалі ў XX стагоддзі. Некалькі тысяч слонімцаў сёння пражывае ў Польшчы, Ізраілі, Германіі, Амерыцы, Канадзе, Бельгіі, Францыі, Аўстраліі, іншых краінах. Я ўжо не лічу Расію, дзе асталявалася шмат выхадцаў са Слонімшчыны. Яны там маюць вялікія пасады ў дзяржаўных і навуковых установах, выдаюць свае навуковыя працы, займаюцца мастацтвам і літаратурай.

Слонімцы ў свеце — бясконцая тэма. Пошукі іх слядоў патрабуюць тэрміновай даследчай працы. Бо кожны пражыты год, дзесяцігоддзе, стагоддзе губляюць звесткі пра землякоў, абысці ўвагай якіх проста нельга. Трэба шукаць сляды папулярнага ў 20—30-х гадах беларускага паэта **Сяргея Дарожнага**, які загінуў у ссылцы, будуючы Камсамольск-на-Амуры. Дзесьці ў горадзе Йашкар-Ала знаходзіцца магіла рэпрэсіраванага **Івана Бялькевіча** з вёскі Воронічы — беларускага мовазнаўцы, лексікографа і лексіколага, аўтара "Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны".

У 1921 годзе памёр у Здалбунаве Ровенскай вобласці, што на Украіне, беларускі драматург, паэт, празаік **Кандрат Лейка** з вёскі Збочна. На шыльдачцы, якая прымацавана да жалезнага крыжа на запушчанай і закінутай яго магіле, напісаны тэкст:

Нуда яго заваліла
На чужому полі,
У чужую зямлю палажыла —
Такая яго доля.

Такая доля напаткала і выдатнага слонімскага паэта **Гальяша Леўчыка**, які загінуў у Варшаве ў 1944 годзе.

Шмат знакамітых слонімцаў назаўсёды знайшлі свой спачын у Санкт-Пецярбургу. Сярод іх — хірург і анатам, былы рэктар Віленскага універсітэта **Вянцэслаў Пелікан, Канстанцін Пушкарэвіч** — доктар філалагічных навук, перакладчык, славіст-педагог, **Уладзімір Хлябцэвіч** — родны брат Яўгена Хлябцэвіча, беларускага крытыка, бібліёграфа, перакладчыка, і некаторыя іншыя.

У ЗША пражывае сёння былы слонімец **Іван (Джон) Вішнеўскі.**

Упершыню родную Беларусь наш зямляк наведаў сем гадоў назад. Пра яго візіт у Мінск паведамляла тады рэспубліканская прэса. "Я думаў, што прыеду ў несучаснае, бруднае мястэчка. А калі ўбачыў родную Беларусь, то быў проста ўражаны. Я зразумеў, што любоў да Радзімы застанецца ў маім сэрцы да самай смерці", — гаварыў тады Іван Вішнеўскі. Але гэта быў не проста эмігрант, які ад настальгіі і тугі завітаў на Бацькаўшчыну. Іван Вішнеўскі — кіраўнік буйной амерыканскай фірмы "NDII" па інвестыцыях і продажу нерухомасці, мільянер. Яго фірма мае штогадовы абарот 165 мільёнаў долараў. Яна займаецца таксама будаўніцтвам офісаў і жылых дамоў.

Іван Вішнеўскі яшчэ і пісьменнік. Сем яго кніг, выдадзеных у Штатах, сталі бестселерамі. Тэма — амаль "па Карнегі": як максімальна выкарыстаць свае творчыя магчымасці. Адна з кніг надрукавана ў Маскве на рускай мове, а ўвесь прыбытак ад яе продажу пайшоў на патрэбы Беларусі. Наш зямлякмільянер меркаваў "прывесці" ў Беларусь буйны бізнес Злучаных Штатаў, каб укласці вялікія грошы ў беларускую эканоміку. Нават быў распрацаваны план будаўніцтва ў Мінску гасцініц, офісаў і катэджаў. Ішла размова і пра Слонім. Але хуткія палітычныя змены і нестабільнасць у Беларусі парушылі планы, задумы так і засталіся нязздзейсненымі. Ды хочацца верыць, што не ўсё яшчэ страчана.

З Амерыкі вернемся ў Еўропу, найперш у сталіцу Бельгіі горад Брусель, дзе цяпер пражывае вядомы ў Бельгіі фармацэўт-гамеапат **Лаўрэн Клыбік.**

Нарадзіўся наш зямляк у вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна ў 1928 годзе. У час вайны немцы вывезлі яго ў Германію. Лаўрэн Клыбік скончыў вячэрнія курсы ў Лондане і Лювенскі універсітэт у Бельгіі. Спачатку працаваў кіраўніком аптэкі ў Брусэлі, а пасля ў Мехіліне. Маючы добрую практыку, у 1966 годзе адкрыў сваю ўласную аптэку. Добры кантакт з кліентамі, карысныя парады аптэкара вабілі людзей. Ён нават сам стварыў некалькі прэпаратаў, якія да сённяшніх дзён карыстаюцца попытам.

У 1977 годзе Л. Клыбік зацікавіўся гамеапатыяй, паступіў на вячэрнія курсы гамеапатычнай школы ў Брусэлі, а праз чатыры гады адкрыў сваю лабараторыю.

Пасля абароны навуковай працы "Кава і яе ўздзеянне на чалавечы арганізм" Лаўрэна Клыбіка прынялі ў Асацыяцыю гамеапатаў Бельгіі. Яго праца выклікала вялікую цікавасць у многіх краінах Еўропы, была апублікавана ў медыцынскіх часопісах Францыі, Бельгіі і Беларусі. Адно з апошніх яго навуковых даследаванняў "Уплыў радыеактыўнасці на жывыя арганізмы" выйшла з друку на французскай мове ў Брусэлі ў 1995 годзе.

Амаль штогод наш зямляк бывае на Бацькаўшчыне. Ён наладжвае супрацоўніцтва з беларускімі медыкамі для апрабавання гамеапатычных сродкаў супраць хвароб, выкліканых радыяцыяй. "Хоць усё маё свядомае жыццё праходзіць далёка ад Беларусі, — гаворыць спадар Лаўрэн, — я заўсёды думаю, як дапамагчы людзям на Бацькаўшчыне". А нядаўна слонімскі фармацэўт з Бельгіі перадаў для музея "Беларусы ў свеце", які існуе ў Мінску ў Цэнтры імя Ф. Скарыны, некалькі каштоўных рэліквій. Гэта вышыты беларускім арнаментам касцюм, у якім Лаўрэн Клыбік выступаў у час вучобы ў Лювенскім універсітэце, дакументы, фатаграфіі 40-х—50-х гадоў, звязаныя з жыццём і дзейнасцю беларускай эміграцыі...

Да сказанага хочацца дадаць, што Лаўрэн Клыбік жанаты з бельгійкаю Жанін Сакрэ. Яны маюць дзвюх дачок Сафію і Надзею, а таксама ўнукаў — Бенжаміна і Валянціну.

З Бельгіі завітаем да слонімцаў у Парыж. Дарэчы, класік французскай паэзіі Гіём Апалінэр (сапраўднае прозвішча Уладзімір Аляксандр Апалінарый Кастравіцкі) быў родам з Кастравіцкіх. Гэты род пачынаецца з вёскі Кастровічы. Адсюль родам маці Гіёма Апалінэра.

Сёння ў Парыжы пражывае з сям'ёй славуты на ўсю Еўропу спявак з Вёскі Какошчыцы **Аркадзь Валадось** — вядучы барытон Францыі. Ён скончыў Санкт-Пецярбургскую кансерваторыю, дзе пазнаёміўся з французскай спявачкай. Яны закахаліся, пажаніліся і ў 1979 годзе пераехалі ў Парыж. У 1992 годзе Аркадзь Валадось быў у Мінску на гастролях. Ён выконваў партыю Грознага ў оперы М. Рымскага-Корсакава "Царская нявеста" і меў вялікі поспех.

Шмат знакамітых слонімцаў сёння ў Польшчы: гісторык **Тадэвуш Сасіньскі**, паэт **Збігнеў Талачыньскі**, артыстка тэатра і кіно **Аліна Яноўская**, многія іншыя.

Каб расказаць пра ўсіх слонімцаў у свеце, трэба напісаць вялікую манаграфію. Радуе адно: дзе б ні жылі мае землякі, яны заўсёды памятаюць, што іх радзімай з'яўляецца Слонімшчына — цудоўны і багаты на таленты куток Беларусі.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ

# АГУЛЬНАЯ МІНУЎШЧЫНА ПАТРАБУЕ ПАШАНЫ

**● Леў МІРАЧЫЦКІ.**

Яно прайшло ў войнах з польскімі і жамойцкімі феадаламі, прускімі і лівонскімі крыжакамі. За 23 гады свайго валадарання Віцень здзейсніў 11 паходаў у Прусію, 5 — у Лівонію, 9 — у Польшчу. Пра Віценя ў "Спевах" Яна Чачота апавядаецца:

Ды на трон Літвы сеў Віцень,
Князь рашучы, мудры, смелы.
Крыжакоў ён біў у сечах,
Ад Літвы адвёў іх стрэлы.

Светарам жа іх ён собіў.
І мяшчанам, што раўкамі
Прывялі яго пад Рыгу,
Каб змагаўся з крыжакамі.

Пад Браўнзберг, Каліш
і Добжын
Ён хадзіў з сваёй літвою,
Праслаўляў наш край у свеце
Зброяй праведнай сваёю.

Нездарма ж і смерць да князя
Не змагла ўсё падступіцца.
Сам Пярун яго ў нябёсы
Ўзяў пад водбліск бліскавіцаў.

Як сцвярджае Тэадор Нарбут (1784—1864), князь Віцень быў забіты маланкай. Адначасова гісторык удакладняе, што з імем гэтага слаўнага збройнага рыцара звязана нараджэнне герба "Пагоня".

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 46—47.**

Шмат хто ў час той, кажуць,
бачыў,
Як між хмар, дзе золак
мройны,
На кані, бы месяц, белым,
Пралятаў ён, рыцар збройны.

Стольнае месца Вялікага княства Літоўскага Навагрудак ужо ў ранні перыяд сваёй гісторыі меў унікальнае абарончае збудаванне: замак з сямю баявымі вежамі і вялікім дзядзінцам пасярэдзіне. Пабудаваны на ўзвышшы ў старажытным цэнтры горада, замак выконваў функцыі велікакняжацкай рэзідэнцыі і адначасова быў сховішчам у момант нападу. Цытадэль належала да самых магутных у краіне. Да яе сцен, абкружаных вадзяным ровам, неаднойчы падыходзілі варожыя войскі. У 1314 годзе абаронцы замка мужна вытрымалі націск крыжакоў на чале з магістрам Генрыхам фон Плоцке, а пазней аблогу татарскай арды Султана Біці-Гірэя (1505 год). Кожны раз пасля варожага нападу замак адбудоўваўся і перабудоўваўся. Двойчы бралі замак войскі маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча. І горад, і замак падчас асады моцна пацярпелі. Аднак самы значны ўрон быў нанесены ў час Паўночнай вайны шведамі (1706 год), калі ўцалелі толькі тры вежы (Дазорца, Шчытоўка, Касцельная).

З той далёкай пары навагрудскі замак больш не адбудоўваўся, а стаў помнікам колішняй сумеснай беларуска-літоўскай супольнасці, сведчаннем нашай агульнай гісторыі, да якой мы звяртаемся з глыбокай пашанай.

**ВІЛЕНСКІ ПЕРЫЯД ЛІТОЎСКА-БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ**

Пасля таго як ад грознага паганскага бога Пяруна загінуў адважны Віцень, яго сын Гедымін (каля 1275—1341) не стаў жыць у Наваградку. Мабыць, паслухаўся вешчуна Ліздэйкі і перанёс сваю рэзідэнцыю ў азёрны край — у Трокі. Ён стараўся "прыдаць трывалую спайку новай дзяржаве", імкнуўся да развіцця гаспадаркі і гандлю. Адначасова, як і бацька, любіў паходы, бываць на прыродзе. І вось аднойчы ў даліне Свентарога яму ўдалося з лука забіць тура. Усцешаны здабычай, ён прылёг адпачыць на мядзведжай посцілцы паблізу ракі. Добра было тут яму. Адчуваў сябе шчаслівым: з Віліі павяваў



# ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

## АПАВЯДАННЕ

ВОГНІШЧА дагарала... Цяпер, амаль нічога ўжо не асвятляючы вакол, толькі тлела таямніча і задуменна, паблісквaючы-пераліваючыся залаціста-чырвонымі вуголлямі... Гэта было надзвычай прыгожае відовішча... І вельмі не хацелася яго парушаць...

Андрэй падумаў яшчэ крыху, потым усё ж прыўзняўся і, навобмацак узяўшы некалькі сухіх галінак, нетаропка кінуў іх у вогнішча.

— Падкінь яшчэ, — папрасіла Хрысціна. — Холадна.

Андрэй падкінуў яшчэ, а Ігар, паглядзеўшы на гадзіннік, устаў.

— Пойдзеш? — спытаў Андрэй, і Ігар кіўнуў сцвярджальна. — Рабіць табе няма чаго!

Ігар нічога не адказаў.

— Ты што, і сапраўды верыш у тое, што сказаў той стары?

— А ты?

Цяпер ужо Андрэй не адказаў нічога. Ён паціснуў плячыма і зноў пачаў падкідваць у агонь сухія галінкі.

— Не хадзі! — ціха сказала Хрысціна. — Я баюся!

Ігар усміхнуўся, уключыў ліхтарык, выключыў яго... зноў уключыў...

— Казкі ўсё гэта! — ён зноў выключыў ліхтарык, паклаў яго ў кішэню. — Лухта!

— А калі не?

— Вось я і праверу!

І, павярнуўшыся, Ігар нетаропка, павольна пакрочыў да возера. А Андрэй з нейкім незразумелым унутраным болем паспеў заўважыць, як ускінуліся блакітныя вочы Хрысціны яму ўслед.

Андрэй сцяў зубы.

— Не трэба было мне ехаць сюды! — міжволі падумалася яму. — Бачна ж... усё ж бачна... простым вокам бачна...

Сцяжынка да возера крута збягала ўніз, а вакол быў лес... І таму постаць Ігара даўно ўжо знікла, растварылася ў суцэльнай цемры.

— Трохкутнік... — горка ўсміхаючыся, падумаў ён. — Класічны, банальны, зашмальцаваны ў сотнях тысяч літаратурных сюжэтаў трохкутнік...

Андрэй уздыхнуў.

— Гэты трэці лепшы за цябе ва ўсіх адносінах! — сказаў ён сам сабе. — Ён прыгажэйшы, дужэйшы, смялейшы за цябе! Цікава, ці пайшоў бы я туды, вось так, адзін... ноччу... асабліва пасля гэтых учарашніх баек?

— Чаму ты не пайшоў з ім?

— Што? — ахоплены сваімі думкамі, Андрэй не адразу і зразумеў, што гэта ўжо і не ягоныя думкі, што гэта спытала Хрысціна...

— Ты проста спалохаўся!

Андрэя больш за ўсё ўразілі нават не самі крыўдныя словы... Больш за ўсё ўразіў тон. Андрэй проста не ведаў, што адказаць ёй... І таму не адказаў нічога. Ён проста ўстаў.

— Куды ты?! — устрывожана спытала Хрысціна.

Андрэй маўчаў.

— А я?! Ты што, пакінеш мяне адну?

Яны глядзелі адзін аднаму ў вочы. І Хрысціна першая не вытрымала, адвяла погляд.

— Я пажартавала... — ціха сказала яна. — Прабач, калі ласка... Сядай! Ды сядай жа ты!

Андрэй паслухмяна сеў.

І менавіта ў гэтую самую хвіліну аднекуль, з боку возера, да іх слыху данёсся адчайны чалавечы крык. Дакладней, крык гэты быў амаль што нечалавечы... столькі ў ім было жаху, болю, адчаю...

І Андрэй, і Хрысціна ўскочылі на ногі амаль адначасова. І ў гэты самы момант крык раптам абарваўся рэзка і адразу, так, нібыта чалавеку, які крычаў, заціснулі, забілі чымсьці рот.

— О, Божа! — прашаптала Хрысціна дрыжачымі вуснамі. — Ігар! Гэта з ім штосьці!

Нейкі час яны нерухома стаялі побач і трывожна слухалі падманлівую цішыню кароткай чэрвеньскай ночы... І, нават не дакранаючыся да дзяўчыны, Андрэй адчуў раптам, што яна ўся дрыжыць...

— Чаму ён... — голас Хрысціны быў нейкі хрыплы, надломлены... — Чаму... чаму ён замаўчаў?!

Трэба было штосьці ёй сказаць, супакоіць... Але вусны не хацелі слухацца... Андрэй зноў успомніў таго ўчарашняга старога... Ягоныя байкі наконт гэтага возера...

Тады яны і сапраўды здаліся Андрэю проста байкамі...

— Трэба ісці,.. — прашаптаў ён і таксама не пазнаў свайго голасу. — Каб даведацца... Мне...

— Нам! — Хрысціна моцна ўхапіла Андрэя за руку. — Я не застануся тут адна.

І яны пайшлі.

Ноч была ціхая, бязвоблачная. І неба, на здзіўленне, зорным, але час маладзіка... А ліхтарыка ў іх не было. І таму ішлі яны вельмі павольна, спатыкаючыся на пні і карэнні, натыкаючыся на галінкі дрэў. Андрэй раптам уявіў сабе, як ішоў тут Ігар. Вось ён ужо каля возера. І раптам адтуль, з возера, з гэтай падманлівай вады...

Усё так, як і казаў той стары...

Ногі зрабіліся нібыта з ваты, а сэрца моцна стукала ў грудзях. Хрысціна ішла побач, моцна трымаючы Андрэя за руку.

Возера было зусім побач, вось-вось павінна паказацца сярод дрэў...

— Ігар! — трывожным шэптам паклікала Хрысціна. — Ігар, дзе ты?!

Возера маўчала...

— Ігар! — зноў паклікала Хрысціна і, адпусціўшы руку Андрэя, зрабіла крок наперад.

— Не падыходзь!

Андрэй схапіў дзяўчыну і з сілай ірвануў яе назад, да сябе. Яны сутыкнуліся... Хрысціна, прытуліўшыся да Андрэя, горка заплакала.

— Ігар... — шаптала яна скрозь слёзы, — Божа мой, Ігар... Што ж гэта такое, Андрэй? Што ж гэта такое...

— Пойдзем адсюль! — хрыпла прашаптаў Андрэй. — Хутчэй.

Штосьці плёснула ў трыснягу... рыба — не рыба, звер — не звер... плёснула... зашапацела... нібыта хтосьці вялізны і нязграбны лез, прабіраўся праз густы трыснёг сюды, да берага... І раптам да слыху Андрэя данёсся чыйсьці выразна чутны ўздых...

— А-а-а! — нема закрычала Хрысціна, кідаючыся прэч. Андрэй бег услед за ёю... А вогнішча ўсё не было і не было... Раптам перад імі зноў бліснула вада.

— О, не! — прастагнала Хрысціна. — Толькі не гэта!

У трыснягу зноў штосьці зашапацела... Яны зноў кінуліся прэч. І раптам убачылі вогнішча...

Яно гарэла ярка, на дзіва ярка... а непадалёку сядзеў Ігар. Сядзеў і проста глядзеў на іх.

Усё так, як і казаў той стары...

— Ігар! — узрадавана кінулася да яго Хрысціна, але Андрэй паспеў схапіць яе за руку.

— Не падыходзь да яго!

— Чаму? — Хрысціна недаўменна паглядзела на Андрэя. — Гэта ж Ігар!

— Гэта не Ігар!

— Значыць, я не Ігар? — Ігар паціснуў плячамі і ўсміхнуўся. — А хто ж тады я?

Андрэй нічога не адказаў. Ён стаяў, маўчаў і глядзеў... глядзеў прама на Ігара... Ці на таго, хто выдаваў сябе за яго.

Хрысціна бездапаможна паглядзела на Андрэя, потым на Ігара, зноў на Андрэя...

— Ды вы што?! — Ігар ускочыў на ногі. — Вы што, звар'яцелі?

— Ты мокры! — хрыпла сказаў Андрэй. Чаму ты мокры?

— Мокры? — Ігар уважліва паглядзеў на сваё адзенне. — Ну, мокры! Што з гэтага?

— Ты не Ігар!

— О, Божа! — Ігар засмяяўся, але адразу ж змоўк. — Вы гэта знарок, так?! Вас раззлаваў мой жарт... І вы спецыяльна... Ён глядзеў на Андрэя, нібы чакаючы чагосьці...

— Ты не Ігар! — паўтарыў Андрэй. — Не ведаю, хто ты, але ты не Ігар!

— Ідыёт! — закрычаў Ігар, сціскаючы кулакі і робячы крок наперад. — Ты мяне "дастаў", дэбіл!

Ён змоўк, заўважыўшы ў руцэ Андрэя нож.

— Не падыходзь! — папярэдзіў той. Лепей не падыходзь!

— Дэбіл! — паўтарыў Ігар за злосцю і зноў апусціўся на траву. — Ды калі б я быў якім-небудзь тапельцам... ды што мне тады твой нож! Паварушы мазгамі, ідыёт! — ён абхапіў галаву рукамі. — Я ідыёт! Знайшоў з кім жартаваць...

Ён зноў змоўк... Андрэй таксама маўчаў... Маўчала і Хрысціна, спалохана пераводзячы погляд з аднаго на другога... А вогнішча ўжо амаль дагарэла... І было надзвычай ціха і няўтульна на маленькай лясной палянцы...

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

---

прахалодай ветрык, не заўважыў, як і заснуў. Бачыць: на гары, якую ў народзе звалі Крывою, стаіць воўк, прычым жалезны. І раптам гучна завыў, быццам цэлая зграя, хоць вушы закладвай.

— Што азначае гэты дзіўны сон? — прачнуўшыся, пытае ў вешчуна Крывэ Крывэйта.

— Князь вялікі Гедыміне, воўк гэты азначае новы замак, — з упэўненасцю адказаў дарадца.

— А галасы ваўкоў?

— Гэта слава пра яго, што пойдзе ў людзі.

А яшчэ вялікі князь пачуў: "Тут будзе і горад цудоўны..."

Па ацэнках многіх даследчыкаў, Гедымін быў чалавекам здольным і разумным, справядлівым і дзейным. За час свайго кіравання дзяржавай (1316—1341) шмат добрага зрабіў для яе. Вільня пры ім стала цэнтрам як беларускіх, так і летувіскіх земляў. Аб'яднальны працэс ён праводзіў рознымі спосабамі. Каб больш цесна звязаць Віцебскае княства з цэнтрам, свайго сына Альгерда ажаніў з дачкою віцебскага князя Яраслава (1320). Гедымін далучыў да Вялікага княства Літоўскага Бярэсце з Падляшшам і Драгічын. Падпарадкаваў таксама Турава-Пінскую зямлю, за якую давялося змагацца з татарамі. Выдаўшы дачку Марыю за цвярскога князя Дзмітрыя Міхайлавіча, імкнуўся ўмацоўваць добрыя стасункі з Ноўгарадам і Псковам, з Маскоўскім княствам. Дзеля важных палітычных спраў і "дзеля міру" выдаў сваю дачку Альдону за сына польскага караля Уладзіслава Лакетку — Казіміра.

**АЛЬГЕРД, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ**

Альгерд, вялікі князь літоўскі (1296—1377), быў трэцім сынам Гедыміна, бацькам 12 сыноў (Ягайлы, Свідрыгайлы і іншых). Ажаніўся ён з Марыяй, дачкою віцебскага князя Яраслава.

Князь Альгерд у гісторыі Вялікага княства Літоўскага — асоба неардынарная. Ён неаднаразова ўдзельнічаў у абароне Айчыны, ажыццявіў нямала слаўных учынкаў.

Утаймоўваў крыжакоў ён,
Розныя плямёны.
У Альгерда ўрад быў мудры,
Добрыя законы.

А чужынец лез — дадому
З роднай гнаў сьвятліцы.
Прысланяў сваё кап'ё ён
Да яго ж сталіцы.

Тут маецца на ўвазе паход Альгерда на Маскву, калі яго войскі нечакана з'явіліся на Паклоннай гары і вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч быў вымушаны багатымі дарамі задобрыць Альгерда, які згадзіўся на мір, але сказаў маскоўскаму князю: "Хоць мы з табой памірыліся, але мне інакш не выпадае, як толькі прысланіць кап'ё да сцяны тваіго горада Масквы, каб славу ўчыніць, што вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Альгерд кап'ё сваё да Масквы прысланіў."

---

ВЯРТАННЕ

# ОПЕРА Антона РАДЗІВІЛА НА МІНСКАЙ СЦЭНЕ





У Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь у рамках Еўрапейскіх дзён "Агульная спадчына" адбыўся спектакль-опера "Фаўст" на музыку Антона Генрыха Радзівіла на лібрэта, напісанае Гётэ. Іх сустрэча адбылася ў 1814 годзе, а прэм'ера оперы прайшла ў 1835-м у Берліне. Апошні раз опера была пастаўлена ў Лондане ў 1880 годзе і пратрымалася ў рэпертуары восем сезонаў.

І вось зараз, больш чым праз стагоддзе, твор нашага вядомага земляка з поспехам узноўлены на сцэне Нацыянальнай оперы ў пастаноўцы заслужанага артыста Беларусі Віктара Скорабагатава.

Перад пачаткам оперы да ўдзельнікаў спектакля і гледачоў звярнуліся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Хорст Вінкельман і міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі.

НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр САСНОЎСКІ (злева) і Хорст ВІНКЕЛЬМАН; сцэна з оперы "Фаўст".

**БелТА.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# КВЕТКІ Ў НЕБЕ ДЛЯ Кацярыны МАЗАКОВАЙ


Кацярына МАЗАКОВА.

**Якім можна ўявіць чалавека, ведаючы толькі тое, што ён здзейсніў больш за 2 200 скачкоў з парашутам? Думаю, фантазія большасці з нас адразу намалюе вобраз гэткага бравага ваякі-дэсантніка... Аднак у жыцці ўсё значна цікавей. У Нацыянальным авіяклубе Беларусі мне давялося пазнаёміцца з Кацярынай Мазаковай. Гэта менавіта яна такую неймаверную колькасць разоў лунала ў паднябессі пад купалам парашута.**

**Пра гэтую маладую і вельмі абаяльную жанчыну можна сказаць адно: яна "на сваім месцы". Захапленне парашутным спортам перарасло ў прафесію: Кацярына скончыла інстытут фізкультуры, зараз працуе старшым інструктарам-парашутыстам у Нацыянальным авіяклубе. Акрамя таго, сёлета паступіла ў Міжнародны інстытут менеджменту: марыць быць эканамістам і прымяніць набытыя веды менавіта ў сваім авіяклубе.**


*Асалода свабоднага палёту.*

**— Кацярына, з чаго ўсё пачыналася?**

— У дзяцінстве любіла чытаць кнігі пра палярных лётчыкаў і марыла стаць пілотам. Неяк даведалася, што ў Мінску ёсць авіяклуб. Мне на той час споўнілася адзінаццаць, і паступіць у авіяклуб я магла толькі праз пяць год. Праўда, тых, у каго быў разрад па нейкаму віду спорту, прымалі крыху раней. Таму пачала ўзмоцнена займацца ручным мячом і роўна ў 15 прыйшла ў авіяклуб. Аднак там самалётнага спорту, пра які я марыла, не было (толькі верталётны і парашутны). Да таго ж у маім узросце прымалі толькі ў парашутны. І я вырашыла: пачну з яго, а там паглядзім. Скочыла — і зразумела: без гэтага больш не змагу.

**— Першы раз страшна было?**

— Абсалютна дакладна, што страшна не было. Наадварот — цікава. Я ўпершыню ляцела на самалёце, упершыню скакала з парашутам. Мне вельмі хацелася, каб скачок адбыўся як мага хутчэй. Спачатку ён планаваўся на люты, але з-за дрэннага надвор'я адбыўся ажно 16 сакавіка. А галоўнае — ужо пасля першага скачка я зразумела, што без неба не ўяўляю свайго далейшага жыцця.

**— У чым жа прыцягальная сіла гэтага віду спорту?**

— Мы ў аэраклубе часам думаем: як людзі жывуць, не зведаўшы адчування свабоднага палёту? Гэта сапраўды незабыўныя хвіліны. Помню: лячу, а пада мной невялікае воблачка. І раптам у ім, як у люстэрку, бачу сябе, і тут жа — рознакаляровая вясёлка! Хіба такі цуд можна яшчэ дзе-небудзь сустрэць?

У нашым аэраклубе ўжо склалася своеасаблівае парашутнае брацтва, дзе людзі разумеюць адзін аднаго з паўслова, дзе заўсёды можна разлічваць на ўзаемадапамогу. І тыя, хто прыходзіць да нас упершыню, адразу гэта адчуваюць: у іншых абставінах для наладжвання такіх адносін патрэбны доўгі час, а тут за некалькі гадзін можна знайсці сяброў.

А ўвогуле парашутызм — спорт для моцных людзей і фізічна, і маральна. Часам вынік залежыць не ад навыкаў, а ад пэўных валявых якасцей, здольнасці чалавека кіраваць сваім характарам. Тым больш, што падчас скачка могуць узнікнуць самыя нечаканыя сітуацыі.

**— Напрыклад, парашут сапсуецца...**

— У мяне ўжо двойчы ўзнікалі праблемы з асноўным парашутам. Галоўнае, не панікаваць, не разгубіцца, а за некалькі секунд прыняць правільнае рашэнне. І што цікава: за гэтыя імгненні я столькі паспявала абдумаць, быццам усё цягнулася цэлую гадзіну!


*Пасля скачкоў.*

**— У вас двое сыноў. Ці хочаце вы, каб яны таксама займаліся парашутным спортам?**

— Павінен быць іх выбар. Увогуле дзеці рана пазнаёміліся з жыццём аэраклуба, дзе часта бывалі разам са мной і бацькам: муж таксама парашутыст, уваходзіў у свой час у зборную Савецкага Саюза, здзейсніў больш за 4 000 скачкоў. Ніякага націску на выбар сыноў з нашага боку не будзе.

**— Вы старшы інструктар-парашутыст. Што гэта за работа?**

— Па-першае, вяду заняткі са спартсменамі, якія прадстаўляюць Беларусь на розных спаборніцтвах, па-другое — працую ў праграме "1А", што дзейнічае ў нас ужо чатыры гады. Гэта своеасаблівы "экспрэс-метад" навучання: пасля некалькіх гадзін заняткаў скочыць з парашутам можа кожны жадаючы. Да нас прыходзяць людзі самых розных узростаў, часам сем'ямі — дзед з унукам, муж з жонкай, бацька з сынам. Адны марылі пра парашут усё жыццё, для іншых скачок з вышыні — своеасаблівы спосаб самасцвярджэння.

**— Няўжо ўсе яны адразу адважваюцца на скачок?**

— Звычайна адважваюцца. Але ў маёй практыцы быў выпадак, калі юнак чатыры разы вяртаўся на аэрадром у самалёце, так і не пераадолеўшы страх перад вышынёй. Многія ж з тых, х то зрабіў свой першы скачок, пасля расказваюць, што гэта стала пераломным момантам у іх жыцці, прымусіла паверыць ва ўласныя сілы. Калі чуеш падобныя водгукі і бачыш шчаслівыя твары людзей — робіцца вельмі прыемна. Хаця сама работа складаная: інструктар пастаянна знаходзіцца ў псіхалагічным напружанні, адчувае асабістую каласальную адказнасць за кожнага навучэнца.

**— Колькі чалавек ужо скарыстала праграму "1А" і чаму вы яе не рэкламуеце?**

— Жадаючых скочыць з парашутам шмат: у мінулыя гады да нас звярнулася каля 600 чалавек, сёлета — 1 100. А не рэкламуем, бо, па-першае, праграма "1А" — не асноўная мэта авіяклуба, а па-другое, пакуль мы проста не справімся з вялікім наплывам людзей.

**— Ці дарагое задавальненне — скачок з парашутам?**

— За адзін скачок трэба заплаціць каля 10 долараў ЗША, пры паўторных скачках кошт значна зніжаецца.

**— Напэўна, у парашутыстаў існуюць свае адметныя традыцыі?**

— Канешне. Напрыклад, святкаванне "юбілеяў" — так мы называем пяцісотыя, тысячныя, двух-, трохтысячныя скачкі. Яны адзначаюцца не толькі на зямлі, але абавязкова і ў небе. Пакуль не раскрыецца купал, парашутысты паказваюць самыя розныя фігуры групавой акрабатыкі, узяўшыся за рукі ўтвараюць своеасаблівы карагод, віншуюць юбіляра. Ніколі не забуду, як на вышыні некалькіх тысяч метраў мне падарылі букет кветак...

**— Ці ёсць у вашым жыцці яшчэ якія-небудзь захапленні, акрамя парашута?**

— Вельмі люблю плаваць. Можа таму, што вада і неба ў нечым падобныя...

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

## СНЕЖАНЬ

- **Снежань зіму пачынае, а год канчае.**
- **Мароз у снежні і снег вышэй хаты — будзе год багаты.**
- **Сухі снежань — сухая вясна, сухое лета.**

СКОРАГАВОРКІ

**— На двары стары баран грукаў зранку ў барабан.**

**— Скача чапля па балоце, чачотачка ў чароце, а чубаты чачот топча, топча агарод.**

**— Добра ўсюды добраму, добраму ўсюды добра.**

СМЯШЫНКІ

**— Я загадвала табе схадзіць да зубнога ўрача. Ты быў у яго?**

**— Быў.**

**— Як зуб, баліць яшчэ?**

**— Не ведаю, урач яго пакінуў у сябе.**

* * *

**— Лідачка, у цябе такія чыстыя белыя рукі... Скажы, што ты робіш, каб скура была такая далікатная?**

**— Нічога... Абсалютна нічога!**

КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Уцепленае памяшканне для зімоўкі пчол. 6. Гранічная лінія якой-небудзь паверхні, ускраіна чаго-небудзь. 7. Прыродная фарба. 8. Чародка звяроў або птушанят, народжаных, выведзеных адной маткай. 9. Рака ў Якуціі. 11. Лагер, месца стаянкі. 14. Прыток Куры. 16. Рака ў Краснаярскім краі. 17. Сцябло льну, канопляў пасля мачэння або вылежкі. 19. Балотная трава. 20. Цвёрды мінерал са слаямі рознай афарбоўкі (выкарыстоўваецца для ўпрыгажэнняў і дробных вырабаў). 23. Першая састаўная частка складаных слоў, якая па значэнню адпавядае слову агранамічны. 25. Травяністая расліна сямейства складанакветных. 27. Рака ў Францыі. 28. Вечназялёная пахучая расліна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Паўвостраў у Чорным моры. 2. Паўднёвая пладовая расліна сямейства ружакветных. 3. Трапічная расліна. 4. Від цвёрдага паліва, якое атрымліваецца з вугалю. 5. Горад на Дняпры. 9. Грызун з каштоўным футрам. 10. Паўночная марская птушка. 12. Вадзяная ці балотная расліна з раскідзістай мяцёлкай і каленчатым сцяблом. 13. Прынада для лоўлі рыб. 14. Маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год. 15. Злакавая расліна. 18. Птушка сямейства крумкачовых. 21. Штучная або прыродная пячора. 22. Стальны трос для вылоўлівання і знішчэння падводных мін. 23. Сталіца Ганы. 24. Усходы, пасевы азімых збожжавых культур.



**Склала Ірына БЕКІШ.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.** Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2360.
Падпісана да друку 6.12.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).